№16 (179)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Кастрычнік 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**У верасні гэтага года ў параўнанні са снежнем мінулага года больш за ўсё выраслі ў кошце сельскагаспадарчыя тавары.**

Сельскагаспадарчая прадукцыя за справаздачны перыяд вырасла ў кошце на 14,2%. Асабліва падаражэлі тавары жывёлагадоўлі - на 16,2%. Прадукцыя раслінаводства стала даражэйшай на 8,7%. Кошты прамысловых тавараў выраслі на 11,1%, у тым ліку на інвестыцыйныя тавары - на 6,9%, прамежкавыя тавары - на 10,7%, спажывецкія тавары - на 13,4%.

Тарыфы на перавозку грузаў усімі тыпамі транспарту ў верасні гэтага года ў параўнанні са снежнем мінулага года павялічыліся на 5,7%, на паслугі сувязі для прадпрыемстваў - на 12,3%.

### У Прыдняпроўі

**В Могилёвской области резко выросло количество убыточных организаций.**

За январь-август 2014 г. убыточными были 114 организаций Могилевской области, или 13% от общего количества организаций, учитываемых в текущем порядке (за январь-август 2013 г. – 68 организаций, или 7,7%). Сумма чистого убытка убыточных организаций за январь-август 2014 г. составила 1 143,2 млрд. рублей, или в 1,9 раза больше, чем за январь-август 2013 г.

### У раёне

**По інфармацыі раённага аддзела ЗАГС за дзевяць месяцаў 2014 года** ў Прыдруцкім краі нарадзілася 187 дзетак. За аналагічны перыяд 2013 года ў раёне нарадзілася 181 маленькіх бялынічан.

За 9 месяцаў бягучага года вузамі Гіменея сябе звязалі 145 пар, у 2013-м — 141.

З пачатку 2014-га года з жыцця пайшлі 328 чалавек, за аналагічны леташні перыяд памерла 342 жыхары Прыдрутчыны.

# У ЧАКАННІ ЧАРГОВАГА ПАДАРАЖЭННЯ

***Пры сустрэчах са знаёмымі і сябрамі зараз у большасці бялынічан асноўная тэма для гутарак – гэта тое, што з тавараў і паслуг ужо падаражэла, і на што кошты павінны падвысіцца ўжо ў бліжэйшы час.***




Кошты растуць літаральна на ўсё практычна кожны дзень. Зараз вось на пачатку кастрычніка зноў у чарговы раз падаражэлі бензін і дызельная паліва, а гэта значыць, што ў хуткім часе зменяцца кошты на ўсе тавары і прадукты, бо іх жа да крамаў давезці трэба.

Колькі трубілі пра небывалы ўраджай збожжа ў гэтым годзе, а цэны на хлеб не толькі не знізіліся, а, наадварот, падвысіліся. Звычайнае беларускае сала таксама каштуе ўжо як далёкі заморскі дэлікатэс. Як падлічылі нашы мудрыя статыстыкі, з пачатку года да верасня ўключна больш за ўсё падаражэлі мяса і птушка - на 33,1%, цукар - на 23,4%, а таксама каўбасныя вырабы і вяндліна - на 19%. Нехарчовая інфляцыя склалася на ўзроўні 6,1%. Кошты паслуг выраслі на 19,7%. Агульны паказнік інфляцыі ў Беларусі склаў 13,4%, а харчовая інфляцыя ў студзені-верасні склалася на ўзроўні 16,6%.

Слаўныя беларускія камунальнікі днямі паведамілі пра тое, што да 2016-2017 гг. беларусы павінны пакрываць выдаткі на аказанне камунальных паслуг у 100% памеры. Начальнік ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі міністэрства ЖКГ Андрэй Рамашка абрадаваў "багатых" беларусаў, што "Зараз насельніцтва аплачвае каля 30% ад выдаткаў на аказанне камунальных паслуг. Да канца года плануецца лічба да 35%". Так што ўжо бліжэйшым часам чакайце чарговага падвышэння коштаў на паслугі ЖКГ, паважаныя бялынічане.

Між тым мой сябар Рыгор Кастусёў, які не адзін год адпрацаваў дырэктарам шклоўскай ЖКГ, кажа, што колькі нашым камунальнікам грошы не дай, ім усё роўна будзе мала. Нават Аляксандр Лукашэнка лічыць, што беларусы аплачваюць 50% ад сабекошту камунальных паслуг , ну а міністэрства ЖКГ прастаянна тарыфы падвышае і ўсё роўна на іх лічыльніку застаецца 30%. Але чаму тут здзіўляцца – слаўным

*(Заканчэнне на стар. 5)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА СУПРАЦЬ БЫЛОГА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ БЯЛЫНІЦКАГА РАЙВЫКАНКАМА НЕ МАЕ ПЕРСПЕКТЫВЫ?

***Пра тое, што супраць дэпутата Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў 27 склікання і тады яшчэ намесніка старшыні Бялыніцкага райвыканкама Андрэя Ярашэнкі ўзбуджана крымінальная справа, газета "Паходня" напісала ў адным з мінулых нумароў.***




Пасля гэтага да журналістаў выдання звярнуўся цэлы шэраг жыхароў Бялыніччыны з просьбай распавесці, што ж паслужыла падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць раённага чыноўніка.

Безумоўна, было б нашмат лепей, каб пра рэзанансную справу распавялі прадстаўнікі адпаведных праваахоўных органаў ці ідэолагі з мясцовай вертыкалі, аднак, калі справа датычыцца каго-небудзь з нашых слаўных чыноўнікаў, яны чамусьці лічаць за лепшае адмоўчвацца. Вось калі б даярка ўкрала два літры малака, ці вартаўнік на працоўным месцы заснуў, яны б абавязкова надрукавалі адпаведную інфармацыю ў раённай газеце. Ды яшчэ б і фотаздымак дадалі…

Як стала вядома журналістам "Паходні" з інфармаваных крыніц, крымінальную справу па падазрэнні ва злоўжыванні ўладай і службовым становішчам у адносінах Андрэя Ярашэнкі ўзбудзіла пракуратура пасля ананімнага сігнала з месца яшчэ напрыканцы чэрвеня гэтага года. Пазней яна была перададзена для расследвання ў Бялыніцкі раённы аддзел Следчага камітэта.

Падставы для ўзбуджэння крымінальнай справы былі наступныя: у аграгарадку Малы Кудзін дэмантаваўся панэльны жылы дом, у якім ужо шмат гадоў ніхто не жыў і не было ніякіх падстаў спадзявацца, што ў мясцовай гаспадаркі з'явяцца нейкія фінансавыя рэсурсы для яго рамонту. Будаўнічыя матэрыялы, атрыманыя пры разборцы дома, ААТ "Бялынічы" выкарыстоўвала для рамонту сянажных траншэй. Аднак частка матэрыялаў аказалася непрыгоднай для выкарыстання. Вось некаторыя з гэтых застаўшыхся няякасных матэрыялаў і забраў для выкарыстання на ўласным лецішчы бялыніцкі чыноўнік.

Інфармаваныя крыніцы паведамілі журналісту "Паходні", што крымінальная справа ў адносінах да Андрэя Ярашэнкі пакуль расследуецца, аднак перспектывы, што яе перададуць для разгляду ў суд, зусім нязначныя – маўляў, нейкіх асаблівых страт ніхто не панёс, а сапсаваныя матэрыялы, якія засталіся пасля дэмантажу дома, усё роўна б закапалі.

Так гэта ці не, пакажа толькі час, ну а журналісты "Паходні" абавязкова будуць інфармаваць сваіх чытачоў пра далейшае развіццё падзей.

***Іван Барысаў***

# ЖИТЕЛЬ БЕЛЫНИЧ ПОДАЛ КАССАЦИОННУЮ ЖАЛОБУ В МОГИЛЁВСКИЙ ОБЛАСТНОЙ СУД

***Житель Белынич Александр Воробьёв подал кассационную жалобу в судебную коллегию по гражданским делам Могилёвского областного суда.***

Александр Воробьёв обжалует решение суда Белыничского района от 4 сентября 2014 года, в котором суд отказал в удовлетворении его искового заявление к ГСК «Дозор» о признании незаконным владения земельным участком площадью 4,36 га, расположенном по улице Энгельса в Белыничах и выделенном кооперативу по решению Белыничского РИК №8-18 от 21.04.2009 г. Александр Иванович считает не законным и необоснованным данное решение суда и обращается в судебную коллегию Могилёвского областного суда с просьбой его отменить, передав дело на новое рассмотрение в другой суд.

Напомним, что ранее Александр Воробьёв в исковом заявлении в суд Белыничского района писал о том, что выделение земельного участка ГСПК «Дозор» проходило с многочисленными нарушениями – отсутствуют документы на перевод земельного участка из одной категории в другую, акт приёма-передачи земельного участка с строениями, акт инвентаризации земельного участка с строениями, а также ссылался на отсутствие в уставе кооператива статуса капитальных строений (гаражей), за которые регулярно велась оплата.

По словам Александра Воробьёва, решением Белыничского райисполкома в 2009 году созданному гаражно-строительному кооперативу «Дозор» был предоставлен земельный участок площадью 4,2245 га. В этот участок без всякого уведомления и без проведения каких-либо собраний и других процедур, предусмотренных белорусским законодательством, были включены и капитальные гаражи, построенные белыничанами задолго до создания кооператива.

«Меня, то есть мой гараж, за который я на протяжении многих лет регулярно платил и плачу налоги, без уведомления и предупреждения передали с землёй кооперативу «Дозор», - писал в своём обращении в суд Александр Воробьёв. – Этим полностью были нарушены мои гражданские права, а также и законодательные акты Республики Беларусь. Землю под строительство своего гаража я на законных основаниях получил ещё в 1980 году, а тут получается, что наших гаражей вообще не существовало.

Я написал обращение в

(Окончание на стр. 5)

# ЧАРГОВЫ ШКЛОЎСКІ ЧЫНОЎНІК ЗНАХОДЗІЦЦА ПАД СЛЕДСТВАМ

***З спісу наменікаў старшыні Шклоўскага райвыканкама, змешчаным на інтэрнэт-сайце гэтай установы, знікла прозвішча Яўгенія Семянкевіча, які шмат гадоў працаваў наменікам старшыні райвыканкама па будаўніцтву.***

Яшчэ ў жніўні гэтага года сярод жыхароў Шклоўскага раёна пайшлі размовы, што ўзбуджана крымінальная справа супраць аднаго з намеснікаў старшыні Шклоўскага райвыканкама. Пазней стала вядома, што Следчы камітэт расследуе крымінальную справу супраць намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама, які курыруе будаўніцтва і жыллёва-камунальную гаспадарку (менавіта гэту пасаду займаў спадар Семянкевіч). Справа была ўзбуджана па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі). Па неафіцыйнай, але дакладнай інфармацыі, Яўгеній Семянкевіч парушыў закон менавіта ў той галіне, якую ён і курыраваў - паспрыяў вельмі блізкай сваячцы ў незаконным атрыманні кватэры.




Зноў жа, згодна неафіцыйнай інфармацыі, супрацоўнікі праваахоўных органаў быццам бы нават затрымлівалі Яўгенія Семянкевіча, аднак пасля адпусцілі і ён працягваў працаваць на сваёй пасадзе. Інфармаваныя шклаўчане кажуць, што быццам бы Яўгеній Віктаравіч напісаў пакаянны ліст на імя кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі і кампенсаваў дзяржаве ўсе панесеныя страты. Дарэчы, спадар Семянкевіч вельмі даўно асабіста добра знаёмы з Аляксандрам Рыгоравічам. Яшчэ ў далёкім 1980 годзе яны разам гулялі ў адной футбольнай камандзе і быццам бы нават сябравалі.

Зараз жа, як паведамляе інтэрнэт-сайт shklov.mogilev-region.by, пасаду намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама па будаўніцтву займае Міхаіл Паўловіч. Міхаіл Віктаравіч да выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў у сакавіку гэтага года працаваў на пасадзе сташыні Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў, аднак дэпутатам 27 склікання выбаршчыкі яго не пераабралі. Паказальна, што Міхаіл Паўловіч займаў пасаду старшыні Шклоўскага райсавета, маючы непагашаную судзімасць, што з'яўляецца грубым парушэннем беларускага заканадаўства. Што ж, своеасаблівая шклоўская зямля дазволіла яму зараз папрацаваць на іншай значнай пасадзе, на гэты раз ужо намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама…

Застаецца нагадаць, што зараз за кратамі пад следствам па падазрэнню ў здзяйсненні карупцыйнага злачынства знаходзіцца яшчэ адзін былы шклоўскі насмеснік старшыні райвыканкама - былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Мінянкоў. А колькі шклоўскіх чыноўнікаў крыху ніжэйшага ранга, асабліва з сферы ЖКГ, ужо адседзелі альбо зараз знаходзяцца пад следствам, нават цяжка падлічыць.

***Барыс Вырвіч***

# РЫГОР КАСТУСЁЎ НАКІРАВАЎ ЗВАРОТ ДА ЛУКАШЭНКІ

***Намеснік старшыні партыі БНФ, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы "Шклоўскі магістрат" Рыгор Кастусёў накіраваў адкрыты ліст да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.***

Па словах Рыгора Кастусёва, звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі ён і яго землякі з грамадзянскай ініцыятывы "Шклоўскі магістрат" вырашылі пасля таго, як іх неаднаразовыя ранейшыя звароты і прапановы да кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама не знайшлі ніякага водгука і засталіся без разгляду.

Чальцы "Шклоўскага магістрату" прапанавалі кіраўніку краіны вылучыць на пасаду старшыні Шклоўскага раённага выканаўчага камітэту Пятра Мігурскага, кандыдата эканамічных навук, які стала пражывае ў Шклоўскім раёне. Па іх меркаванню, сучаснае кіраўніцтва Шклоўскага раёна ў вачах людзей ператварылася ў касту недатыкальных з вялікімі асабістымі прыбыткамі і без адказнасці за вынікі сваёй працы.

Кіраўнік "Шклоўскага магістрату" у сваім лісце задае Аляксандру Лукашэнку рытарычнае пытанне, як магло стацца, што на пасадзе старшыні Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў шмат год знаходзіўся чалавек з непагашанай судзімасцю?

Рыгор Кастусёў звяртае ўвагу кіраўніка краіны на тое, ўто ўжо больш дзесятка год жыллёва-камунальную сферу раёна калоцяць шэраг карупцыйных скандалаў, звязаных з кіраўнікамі прадпрыемства. Адзін за адным за злоўжыванне

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧИСТОТА – ЗАЛОГ ЗДОРОВЬЯ… ЛИЧНОСТИ И ОБЩЕСТВА В ЦЕЛОМ!

***Вот уже на протяжении двадцати с лишним лет мы слышим это слово, но не многие ещё понимают его значение и разрушительность в системе политической власти. На мой взгляд, слово коррупция – это продажность людей, занимающих определённую должность и использующих эту должность в своих корыстных интересах, из-за чего материально и морально страдают конкретные люди.***



*Зинаида Милещенко*

Чтобы приблизить граждан к пониманию данных действий, приведём пример, казалось бы, безобидных афёр, из-за которых пострадали сотни людей и в нашем районе, и даже в республике Беларусь в целом. В последнее время, благодаря несовершенству законодательства (преднамеренно или случайно, это никто не выяснял), в Республике Беларусь появились всякие ООО и АОО, занимающиеся коммерцией или так называемой «трудовой деятельностью».

Под видом товаров из ЕС доверчивым гражданам всучивают китайскую подделку, но по бешеным ценам. Чаще всего эти балаганы сейчас устраивают в клубах и Домах культуры, которые с недавних времён взял под своё крыло идеологический отдел райисполкома. Казалось бы, что плохого в том, если в данных помещениях проводятся так называемые «презентации»? Думаю, что никто и не был бы против, если бы там не осуществлялась торговля с постоянными нарушениями законодательства, с обманом покупателей, а таких вещей вообще не должно быть в данных учреждениях. Вместо того чтобы заниматься своим делом, т. е. культурой и искусством, и искать пути решения обеспечения дополнительного финансирования данной структуры, отдел идеологии и культуры почему-то участвует не в свойственном ему деле. У меня лично складывается впечатление, что не бескорыстно, потому что на данных презентациях отсутствуют работники санстанции, милиции, налоговой и торговли.

Вот уже на протяжении нескольких лет разнообразные группы Остапов Бендеров обкрадывают граждан, но почему-то ни руководство Круглянского РОВД, ни сотрудники прокуратуры ни разу не поинтересовались законностью данных мероприятий. А ведь соответствующие заявления поступали даже от автора данной статьи. И вы хотите, чтобы я поверила, что всё это делается бескорыстно, что работники всех госучреждений, участвующих или устранившихся от участия в этом обмане действуют бескорыстно? Думаю, что нет. Тем более, после того, как автору статьи областная общественная организация предложила возглавить районную службу «Защиты прав потребителей», кто-то из главных чиновников Круглянского райисполкома категорически «возразил». И что? Службы райисполкома, ответственные за данные структуры, не в курсе происходящих событий? Не верю!! Потому что одной из странностей является то, что у работников приезжих фирм оказываются списки пенсионеров района, - ведь основными жертвами становятся именно пожилые люди, наиболее не информированные и доверчивые по своему менталитету. А так как цены при продаже товаров завышаются в десятки раз, то в ходу, видимо, неплохие взятки должностным лицам.

Между тем, районного отделения общественной организации «Защиты прав потребителей» нет до сих пор. Нет, на бумаге оно есть, но фактически не работает, потому что никто из чиновников не хочет брать на себя такую обузу, ведь за эту работу никто не платит. Я же была согласна работать без оплаты. И областное управление было даже заинтересовано в моей работе. Но… До сих пор происходит обман доверчивых стариков. И на повестке дня остаётся открытым вопрос: А КОМУ ЭТО ВЫГОДНО??

О так называемой трудовой деятельности отдельных «ООО» можно бы было написать роман. Как грибы после дождя, они открываются и закрываются, получая от государственных служб занятости деньги на открытие рабочих мест. Это, как правило, швейные производства и строительный бизнес. Меня только удивляет, что зарплату своим работникам они выплачивают в большинстве в конвертах, но никто, ни правоохранительные органы, ни налоговая служба, не бьют тревогу. Фирмы меняют названия, от ООО до ОДО, потом снова закрываются и открываются в разных провинциальных районах, получают деньги многократно, и я думаю, что всё это происходит не бескорыстно для отдельных чиновников.

Наносит ли вред государству данная деятельность? Казалось бы, что это дело частное и касается только отдельных обманутых личностей. Позвольте не согласиться!! Обман, какую бы форму он не принимал, тяжело переносится обществом и наносит ему непоправимый финансовый и моральный ущерб. Для чиновника, принимающего мзду за незаконные действия, наступает такой момент, что его «аппетит» растёт и принимает всё более извращённые формы мздоимства. Смешно говорить, но когда букет цветов лечащему врачу отнесли к взятке, то общество это не осудило, хотя это просто дань уважения к профессии врача, который спасает тебе жизнь. А вот когда за решением закрыть, например,

*(Окончание на стр.5)*

## ЧИСТОТА – ЗАЛОГ ЗДОРОВЬЯ… ЛИЧНОСТИ И ОБЩЕСТВА В ЦЕЛОМ!

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

только что отремонтированную итальянцами Круглянскую школу-интернат никто не увидел коммерческого интереса отдельных чиновников, то это уже наводит на определённые выводы. Я уже не говорю о потере рабочих мест опытными педагогами данной школы. Ну не верю я, что никто не был заинтересован в приобретении за бесценок хороших зданий! Сколько стоило это мероприятие для района, никто перед народом не отчитался. Вообще, в нашем государстве узнать правду о финансировании тех или иных объектов невозможно. Сколько тратиться средств «на жизнедеятельность» властной вертикали – «тайна сия велика есть». Что происходит за закрытыми дверьми госучреждений - народ не знает, а депутатский корпус молчит. А может и сам не знает, так как в депутаты идут те же, или такие же чиновники, которые сидят в управлении.

Не потому ли 20 с лишним лет мы слышим эту сказочку «про серого бычка», т. е. коррупцию, а воз и ныне там. И пока чиновник не будет отчитываться перед народом за свою работу (а он ведь находится на службе у народа), сколько бы не топали сверху, сколько бы державный кулак не стучал по столу с угрозой, чиновник брал и будет брать откуп за всякие мошеннические схемы, а мы будем платить из своего кармана в магазинах за высокие цены. Потому что пока чиновнику «светит» выгода и система власти неподконтрольна обществу, он всё равно придумает «цепочку» личной выгоды, такую например, как «дырка» в законодательстве о ценах, или бесконтрольность расходовании бюджетных средств.

Я не вижу выхода из этого тупика, если не сменится сама система власти, а в это верится с трудом. Пока что в нашем обществе всех всё устраивает: пострадавшие спрашивают, «а где иначе?» и не находят ответ, так как наше общество почти закрыто для информации, а чиновник «жиреет» от своей безнаказанности, не чувствуя контроля общества над собой. И мы всё глубже погружаемся в воронку отчаяния и тупости, не понимая, что наша судьба – в наших руках. Нельзя вычистить «авгиевы» конюшни, не взяв в руки вилы. Или хотя бы метлу…

***Зинаида Милещенко***

## У ЧАКАННІ ЧАРГОВАГА ПАДАРАЖЭННЯ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*




працаўнікам ЖКГ заўсёды можна за кошт падвышэння тарыфаў і датацый з боку дзяржавы новую машыну дырэктару купіць ці чарговую каханку на працу ўзяць, загнаўшы расходы ў сабекошт. Таму можа лепш Рыгоравічу паслухаць параду свайго зямляка Кастусёва: “Спачатку дзяржава павінна вярнуць насельніцтву тыя грошы, якія яна выплочвае прадпрыемствам ЖКГ у выглядзе пакрыцця расходаў. А людзі няхай самі вырашаюць, ці аказана паслуга якасна і ў неабходным аб’ёме, а таксама колькі і каму плаціць за жыллёва-камунальныя паслугі. Пакуль дзяржава сама вызначае плацяжы, “абадраўшы людзей”, толку не будзе”.

***Іван Барысаў***

## ЖИТЕЛЬ БЕЛЫНИЧ ПОДАЛ КАССАЦИОННУЮ ЖАЛОБУ В МОГИЛЁВСКИЙ ОБЛАСТНОЙ СУД

*(Оконч. Начало на стр. 2)*

Могилёвский областной исполнительный комитет и был получен ответ, что при принятии решении о выделении земли ГСПК «Дозор» были допущены нарушения, и Белыничскому райисполкому было рекомендовано отменить некоторые решения. Я до сих пор жду, когда же все ошибки будут исправлены».

Александр Воробьёв говорит, что он вовсе не против создания кооператива «Дозор», но ему непонятно, почему с него требуют 200 $ вступительного или паевого взноса, если он на протяжении многих лет платил земельный налог, тем более, что его гараж построен много лет назад.

Также Александр Воробьёв утверждает, что он подал уже два заявления о вступлении в ГСПК «Дозор», но ответа на них не получил до сих пор.

Суд Белыничского района в лице судьи Валентины Павловой между тем считает очевидным, что гаражный кооператив и его выборные органы были созданы в установленном законом порядке, действуют согласно законодательства и доводы истца в этой части не соответствуют действительности.

В мотивировочной части решения суда Белыничского района Могилёвской области от 4 сентября 2014 года по гражданскому делу по иску Воробьёва А. И. к ГСПК «Дозор» судья Павлова также констатирует: «Что касается решения Белыничского РИК в части выделения земель ГСПК «Дозор», то этот пункт решения соответствует действительности, принят согласно требованиям законодательства. Некоторые погрешности не являются значимыми и не могут поставить под сомнение законность указанных решений с учётом их сущности, поскольку землеустроительные дела и все необходимые для этого документы оформлены компетентным органом с соблюдением в этой части требований закона».

Газета «Паходня» обязательно проинформирует читателей о том, какое решение по кассационной жалобе Александра Воробьёва примет судебная коллегия по гражданским делам Могилёвского областного суда. Решение Белыничского районного исполнительного комитета от 21 апреля 2009 г. №8-18 о выделении в постоянное пользование земельного участа ГСПК “Дозор” действительно затронуло интересы многих белыничан, которые уже имели в этом месте ранее построеные гаражи.

***Сергей Семенович***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# «РЕФОРМА», О КОТОРОЙ ПРЕДПОЧИТАЮТ МОЛЧАТЬ

***В 20-30 годы прошлого столетия на территории нашей республики проводилась так называемая коллективизация сельского хозяйства путём создания колхозов. Тогда в каждой деревне было по колхозу, а в некоторых крупных населённых пунктах по 2 и больше. Потом, вплоть до развала СССР, колхозы укрупняли путём объединения, включая в их состав по 6-7 деревень при среднем размере от 2000 до 4000 гектар сельхозугодий, в которых процентов 60 занимала пашня.***

До аварии на Чернобыльской АЭС на территории Краснопольского района насчитывалось 8 колхозов и 6 совхозов. Площадь сельскохозяйственных угодий составляла 57928 гектар, пашни—32469. После Чернобыльской трагедии в распоряжении местных крестьян осталось 29 тысяч гектар сельскохозяйственных угодий и 12,6 тысяч гектар пашни, на которых продолжали работать 5 сельхозпредприятий. Как помнят наши читатели, в период с 2005 по 2010 год по Беларуси вообще и по Могилёвской области в частности прокатилась целая волна укрупнения и объединения сельскохозяйственных предприятий. Основная идея таких преобразований, исходя из официальной пропаганды, была направлена на повышение эффективности функционирования АПК в целом. В кабинетах высокопоставленных чиновников, вместо кропотливой и системной работы, нашли оригинальный и малозатратный с их точки зрения метод решения проблемы. Низкорентабельные или убыточные предприятия присоединяли к хорошо работающим, а потом по статистическим отчётам показывали, что убыточных предприятий нет, или их число сократилось. Игра цифрами, на некоторое время, позволяла чиновникам красиво отчитываться о проделанной работе по росту эффективности сельхозпроизводства и снижению числа убыточных хозяйств, но реальную ситуацию на селе это не спасло, а только ухудшило. В русло вышеназванных чиновничьих игр попал и АПК Краснопольского района. Два наезжих временщика (в Краснопольском районе местные жители их одно время даже звали «оккупантами» — автор) из соседнего Чериковского района, в лице председателя райисполкома А. Ветошкина и его первого заместителя Л. Кондратени при поддержке и одобрении тогдашнего депутата Могилёвского областного Совета депутатов по Краснопольскому району, начальника налоговой инспекции по Могилёвской области И.Кожемяко, придумали эксперимент по объединению всех убыточных и низкорентабельных организаций АПК района под крылом самого сильного предприятия, — СПК «Краснопольский» во главе с крепким хозяйственником В. Бардоновым. Как позже заявлял сам А. Ветошкин, этот эксперимент якобы был одобрен и на самом верху президентской вертикали. В случае его успешного проведения в Краснополье, следующим таким районом Беларуси должен был якобы стать Нарочанский. С тех пор прошло уже более пяти лет. Время более чем достаточное, чтобы сделать обоснованный вывод по итогам вышеназванного эксперимента. И он явно не утешительный. Ситуация в важнейшей производственной отрасли района, сельском хозяйстве, стала значительно хуже чем была. На этом фоне местные чиновник бросились во все тяжкие. В качестве доказательства сказанного мы приведём только две выдержки из газеты «Советская Белоруссия» («СБ») за 2012 и 2013 годов. Статья собственного корреспондента Павла Минченко «СБ» от 21.02.2012 года «Плохо отмерили и криво отрезали»: «Недавно я вновь побывал в Краснопольском районе. Первым делом отправился к директору УКСП «Краснопольский» Василию Бардонову, недавно назначенному на должность . Василий Николаевич огорошил меня прямо с порога: — Эксперимент с треском провалился. Бардонову есть с чем сравнивать. До объединения он возглавлял ещё не укрупнённое сельхозпредприятие «Краснопольский». На тот момент это было




*(Окончание на стр. 8)*

# ЗБРОЯ АСОБАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ

***Трывога! У сэнсе - не трывожныя пачуцці, а момант, калі трэба бегчы да сябе на працу амаль што ноччу. Прабач, каханая. Што зробіш, такая праца ў нашым раённым аддзеле…***

- Чё за хрень?! Кому не спится в 5 утра?! Чё за тревога?.. Какую ещё урну должны привезти? Чё за досрочное голосование?..

Да объясните вы толком! Чё за выборы? Ты знаешь? А ты? Всем всё по барабану! Надо подойти к Иванычу? Он должен знать… Да, ладно, Иваныч, чего сразу посылать! Чуть что так сразу материться? Маразматик старый... Живёте тут в своей грёбаной стране, и не хрена сами не знаете!..

...Зразумела, баявая трывога гэта не жартачкі! Падстава павінна быць грунтоўная. Наш узвод прысутнічае ў поўным складзе! Дарэчы, як і астатнія падраздзяленні. А вось і урна. Сам намеснік па ідзеалогіі нясе ...



- Слышишь! А чё делать-то надо? Будем бюль..., блю..., эти... були-тени заполнять? А чё здесь писать надо? Тут же не видно ни хрена, отпечатано вообще хреново! Писарь картриджи выработал? Да я как устроился, он мне сразу не понравился, скотина рыжая...

...Дакладна, бюлецені і сапраўды раздрукаваныя абы як. Нібыта рыхталіся, рыхталіся, а ў апошні момант узгадалі, што забыліся надрукаваць гэтыя самыя бюлецені... Такое адчуванне, што не важны дзяржаўны дакумент, а, так, папера для прыбіральні...

- Чё за республика Николаевка?! Вот тут вверху страницы! После выборов так будет республика называться? Ясно – потому что основного кандидата зовут Николай. Нет? По названию его родной деревни?.. Так ещё ж выборы вроде не прошли… Молчу! Молчу! Молчу!...

...Сітуацыя ў нас сапраўды жорсткая. На тэмы, што тычацца кіраўніцтва, ці, не дай божа, палітыкі, у аддзеле ніхто не размаўляе. Не таму, што ўсе такія аднадумцы і пагаварыць няма пра што, а таму што пра ўсе размовы адразу ж вядома “там, дзе трэба”. Ёсць спецыялісты па перадачы любой інфармацыі да патрэбных “вушэй”. Я заўсёды маўчу. Ніколі ніякіх заўваг не меў, раблю выгляд, што нічога не заўважаю, таму, здаецца, лічуся добранадзейным...

- Так чё в этих бумажках писать? Детский сад какой-то! Правда! Какая-то лотерея заводского профкома! Да чё вы всё “тихо” да “тихо”! Ну работал я в Москве на заводе, так чё теперь? Не в этом дело? А в чём тогда? Ну, скажите, серьёзно, чё писать! Чё я хотел бы получить на Новый год? Да ладно гнать-то! Нет, правда что-ли? Чё за хорошую службу подарок можно попросить? Да не гони ты! Как это любой? А ты чё будешь просить? Да пошёл ты: “не твоё дело”... А ты чё попросишь? Детскую коляску? Чё-то мелковато...

*… Ну вось і даслужыўся. Пасля ўсеагульнага збора – пастраенне і сквапнае камандзірскае “Спасибо за службу! Все свободны!”, а потым называюць маё прозвішча, і загадваюць застацца. Сэрца заныла ў прадчуванні чагосьці нядобрага. З іншага боку чаго баяцца? Тайна галасавання ёсць тайна галасавання. Але ж хто гэта ў цывільным з’явіўся? У кабінеце начальніка ЧОЗ, не лічыўшы мяне, застаюцца толькі гэты чалавек, ды наш падпалкоўнік, гаспадар кабінета...*

- Полковник, иди сюда! Ну, ладно тебе – “не полковник, не полковник”, сегодня уже всё решено. Ну что ты всё “Виктор Павлович, да Виктор Павлович”… Иди сюда, я щас от смеха обоссусь! Это шо за цирк? Шо за детская коляска? Ой, нету сил смеяться! А тут глянь! Твой боец “Мазду” просит к Новому году! Ну ты Санта-Клаус! Далеко пойдёшь! Да ладно, не красней! Ну что ты сразу “наряды, карцер, премии лишать...”! Да всё нормально, хорошо поработал с личным составом! Бумажки себе на память оставь, будешь знать, кто о чём мечтает... Ну, а тебе ли не знать, что мечты сбываются! Было бы гораздо хуже...

*...Нешта ён замоўк. І ўсмешка спаўзла з твару. Працягвае адзін бюлецень са скрыні нашаму начальніку і нечакана жорсткім тонам прамаўляе: “Ознакомьтесь, товарищ подполковник”. Твар начальніка адразу становіцца бледны, бюлецень дрыжыць у руках. Ён доўга перачытвае (відаць там, дзе напісана, за якога кандыдата прагаласавалі), потым не адзін раз перачытвае прозвішча. Міжволі гучна сіпіць: “Оппозиционер, бл…дь… В тихом болоте все черти… Уволю к хренам собачьим!.. ” Начальнік уважліва глядзіць на мяне, яго вочы напаўняюцца нянавісцю. Нібыта хоча зрабіць стрэл, ён выцягвае руку і накіроўвае ў мой бок пакамячаны аркушык, які раптам са звычайнай паперы для прыбіральні ператварыўся ў такую моцную і небяспечную для яго зброю…*

***З павагай да ўсіх добрых людзей, аўтар — спадар Я.***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# РЫГОР КАСТУСЁЎ НАКІРАВАЎ ЗВАРОТ ДА ЛУКАШЭНКІ

(Заканч. Пачатак на стар. 3)


*Рыгор Кастусёў*

службовым становішчам пад следства падпадаюць намеснікі старшыні райвыканкам. Агульны карупцыйны складнік па Шклоўскаму раёну толькі за апошнія 4 гады ў фінансавым плане складае больш 60 мільярдаў рублёў.

Намеснік старшыні Партыі БНФ таксама пытаецца ў Аляксандра Лукашэнкі: "Дык ці не пара ратаваць людзей і раён? І не філасофстваваць пра змаганне з карупцыяй, а па сапраўднаму адсекчы гэтаму цмоку галаву".

"Я асабіста занёс і перадаў свой адкрыты ліст са зваротам да Аляксандра Лукашэнкі ў адміністрацыю прэзідэнта 3 кастрычніка, - распавядае Рыгор Кастусёў. – Чыноўнік, які яго прымаў, спрабаваў мне казаць, што зварот могуць не разглядзець, бо ён падаецца ад імя быццам бы незарэгістраванай арганізацыі. Давялося яму тлумачыць, што "Шклоўскі магістрат" – гэта грамадзянская ініцыятыва неабыякавых людзей Шклоўшчыны, а не нейкая арганізацыя, і рэгістрацыя ёй не патрабуецца. У выніку ўсё ж чыноўнік зварот прыняў і зарэгістраваў.

Сітуацыя ў Шклоўскім раёне сапраўды вельмі складаная, у эканоміку раёна ўкладваюцца вялікія сродкі, аднак адапаведнай аддачы ад гэтых укладанняў няма. У раёне адзін за адным рэгулярна ўспыхваюць карупцыйныя скандалы, мільярды рублёў скрадзены на будаўніцтве жылля і жывёлагадоўчых комплексаў, у камунальнай і сельскай гаспадарцы раёна. Чальцы нашай рэгіянальнай грамадзянскай ініцыятывы "Шклоўскі магістрат" вылучалі свае прапановы кіраўніцтву Шклоўскага раёна аб тым, як палепшыць сітуацыю, аднак шклоўскія чыноўнікі да меркавання грамадзянаў прыслухоўвацца не жадаюць", - кажа Рыгор Кастусёў.

*Барыс Вырвіч*

# «РЕФОРМА», О КОТОРОЙ ПРЕДПОЧИТАЮТ МОЛЧАТЬ

(Оконч. Начало на стр. 6)

самое сильное хозяйство в районе, вокруг которого и стали собирать остальных. Кормами и топливом «Краснопольский» помогал соседям. Покупал новую технику, вкладывал средства в собственное развитие. А что сейчас? На единственном в районе сельхозпредприятии висят все долги влившихся в состав СПК. Сумма впечатляющая—около 70 млрд. рублей… Тут не до жиру: хотя бы с текущими платежами разобраться. Минувшим летом, например, Краснопольский не смог вовремя заплатить за электроэнергию. Сначала энергетики отключили контору, потом машинные дворы, пилорамы, зернотоки. Две недели не было света….». Павел Минченко, статья «Приписки с поля вон» «СБ» от 26.09. 2013г.: «Более 14 тысяч тонн якобы заготовленных кормов «нарисовали в Краснопольском районе. Тем самым фактически обрекли на голодовку скот… Примечательно, что столь масштабные приписки в Краснопольском районе выявляются уже не первый раз… В 2011-ом приписали 800 гектаров убранных площадей, почти 3,5 тысячи тонн зерна. Кроме того в отчётах «нарисовали» несуществующее поголовье скота. Приписки выявили сотрудники КГК Могилёвской области….». Почему так произошло, и какие выводы из вышеназванного эксперимента надо было бы сделать, мы поговорим в следующих номерах газеты, тем более, что и у нас в Белыничском районе районные власти очень увлеклись укрупнением хозяйств.

*Артём СЕМЁНОВ*

# Суд Крычаўскага раёна пакараў былога дырэктара КСУП "Добрасць" на два гады пазбаўлення волі

Суд Крычаўскага раёна пад старшынствам суддзі М. Бравусава вынес прысуд у адносінах былога дырэктара КСУП "Добрасць" Крычаўскага раёна Сяргея Гудына. Былы дырэктар сельгаспрадпрыемства, якому інкрымінавалася парушэнне артыкула 426 ч. 3 Крымінальнага кодэкса РБ (перавышэнне ўлады адльбо службовых паўнамоцтваў)прысуджаны да пакакарання ў выглядзе двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыма, паведамляе інтэрнэт-сайт horad.info.

Прысуд у адносінах Сяргея Гудына пакуль не ўступіў у законную сілу, па інфармацыі журналістаў газеты "Вольны горад" былы дырэктар абскардзіў рашэнне суда Крычаўскага раёна ў Магілёўскім абласным судзе.

Неабходна адзначыць, што дырэктар КСУП "Добрасць" быў затрыманы ў лістападзе 2013 года па падазрэнню ў збіцці механізатара гэтага сельгаспрадпрыемства. Пасля канфлікту з механізатарам, які знаходзіўся на працоўным месцы ў нецвярозым стане, дырэктар КУАП "Добрасць" Сяргей Гудына спачатку абразіў падначаленага, а потым яго пабіў. Пазней высветлілася, што такія неадэкватныя паводзіны дырэктар сельгаспрадпрыемства дазваляў сабе і раней у адносінах да іншых сваіх падначаленых.

Зараз праваахоўныя органы Магілёўскай вобласці расследуюць яшчэ дзве крымінальныя справы ў адносінах фінансава-гаспадарчай дзейнасці кіраўніцтва КСУП "Добрасць".

*Іван Барысаў*

# ГАИ не спит

13 октября ОГАИ на автодороге «Минск-Могилев» вблизи д. Б. Трилесин задержана а/м «Фольксваген» под управлением неработающего жителя д. Кадино Могилевского р-на,1982 г.р., который перевозил 1 009 кг сухофруктов без соответствующих документов. Сухофрукты на общую сумму 42 000 000 руб. изъяты. Проводится проверка.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 16.10. 2014 г. у 08-00.